Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

27 ЛЮТАГА - 5 САКАВІКА 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
3000 РУБЛЁЎ
№ 9 (149)

АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

## Усё лепшае - дзецям?

Сціхаюць размовы аб перадачы будынка дзіцячай музычнай школы гарвыканкому. Улады мелі намер перасяліць школу ў памяшканне былога трэста "Маладзечнасельбуд".

77 выкладчыкаў, тэхработнікаў ДМШ паставілі свае подпісы пад лістом у выканкам: аргументавана паведамлялі аб немэтазгоднасці пераезду. Улады стварылі камісію, якая мусіла дэталёва вывучыць пытанне. У выніку з'явілася выснова аб немагчымасці мяркуемага рамонту ў "новым" памяшканні ДМШ: калі надбудаваць яшчэ адзін паверх, могуць не вытрымаць перакрыцці. Наогул, кошт будаўнічых работ значна перавысіць планавы. Месца, куды планавалася перавесці дзяцей, небяспечнае для іх здароўя, бо побач працуе аб'яднанне "Маладзечнамэбля".

З улікам сказанага цяперашні будынак у цэнтры горада застаецца за дзецьмі.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

## Бясплатнае адраджэнне

Рашэннем райвыканкома дзеці, што займаюцца на аддзяленні дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Вішнеўскай музычнай школе, вызваленыя ад платы за навучанне.

Цяпер на аддзяленні займаюцца пляценнем з саломкі. Улады палічылі адраджэнне народнай творчасці справай важнай і, каб заахвоціць навучэнцаў, пайшлі на гэты крок. Фактычна ў групе, разлічанай на 15 чалавек, займалася ўдвая больш.

*Таццяна АЛЯКСЕЕВА.*

СМАРГОНЬ

## У гаражах высвятляюць адносіны

Гаражы РАУС міліцыянеры ператварылі ў спартыўную базу.

Цяпер там "качалка" (трэнажоры падарыў былы домабудаўнічы камбінат, дырэктар **Уладзімір Траццякоў**) і зала для заняткаў барацьбой. Грошы на барцоўскі дыван - 50 мільёнаў рублёў - выдзеліў для свайго аддзела райвыканкам.

*Тарэса КУМІШЧА.*

РАДАШКОВІЧЫ

## Бяда ў жаночы дзень

У мінулую пятніцу ледзь не згарэла гарадская лазня. Якраз быў "жаночы" дзень. Праз дзве мінуты пасля ўзгарання электракабеля прыехалі пажарныя. Тушэнне працягвалася чвэрць гадзіны.

Дзякуючы аператыўным дзеянням пажарных жанчыны аддзеліся толькі перапудам. Ну і дамываліся, зразумела, давялося дома. Страты ад пажару ацэньваюцца ў 5 мільёнаў рублёў.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

## Раздзелаем да кумпячкоў

Мясцовая птушкафабрыка плануе набыць і эманціраваць абсталяванне для глыбокай перапрацоўкі птушкі.

Цяпер раздзелка будзе ісці "да кумпячкоў". А рэзаць ёсць што: сёлета плануецца пусціць у гандаль 378 тон мяса індычкі.

*Аддзел інфармацыі.*

ШТОТЫДНЁВІК

САКАВІК 2 - 8

| Што зрабіць | Патэлефанаваць |
|---|---|
| Падпісацца на "Рэгіянальную газету" на бліжэйшай пошце. | 53841 даць аб'яву |
| | **Павіншаваць** |
| | Павіншаваць любімых жанчын з 8 сакавіка. |

Лінія Вілейка - Маладзечна прыватызаваная (факт), як і многія іншыя аўтобусныя маршруты (меркаванне)

# Падбяры мяне, аўтобус!

*Прыватызаваная ў тым сэнсе, што абслугоўвае прыватныя інтарэсы вадзіцеляў.*



ФОТА IREX PROMEDIA

Стан грамадскага аўтамабільнага транспарту з года ў год становіцца ўсё горшым. У аўтапарках робіцца падзей набыццё новага аўтобуса. І такія выпадкі здараюцца ўсё радзей. Нават увядзенне новага падатку на падтрымку аўтатранспартных гаспадарак не выратуе катастрафічнага становішча спраў-- аўтобусы літаральна разваьваюцца.

Больш за дзесяць год маю магчымасць назіраць за работай прыгарадных аўтобусаў на маршруце паміж Вілейкай і Маладзечнам. І прыходжу да высновы: становішча не палепшыцца. Прынамсі, у самыя блізкія два-тры гады.

Колькі разоў, заходзячы ў салон "Ікаруса" або "ЛАЗа" на адным з прыпынкаў і працягваючы грошы вадзіцелю, чакаеш білет. Часцей за ўсё, дарэмна. На прапанову даць табе квіток нярэдка пачуеш: білеты прадаюцца на аўтавакзале. Там і сядайце.

І будзьце ўпэўненыя, калі вы наступным разам будзеце чакаць аўтобуса на прыпынку "Лазня" на выездзе з Вілейкі ў адзіноце, шафёр не спыніць аўтобус. Успомніць старое.

Аўтобус-- крыніца пабочнага прыработку вадзіцеля. Ніхто гэтага не аспрэчыць. Бо не варта б было ствараць усялякія кантрольныя службы пры аўтагаспадарках і за іхнімі межамі. Пры заробках вадзіцеляў у 2- 3 мільёны наіўна чакаць, што спакуса не падкажа даволі просты спосаб папоўніць свой бюджэт. Тым самым аўтапрадпрыемствы пазбаўляюцца паступленняў у касу. Што, у сваю чаргу, цягне яшчэ большае пагаршэнне іхняга фінансавага стану.

*Заканчэнне на 3-й стар.*

ХВАРЭЕМ

## Грып крочыць няспешна - 30 км за 2 тыдні



ФОТА IREX PROMEDIA

**МАЛАДЗЕЧНА.** За мінулы тыдзень зарэгістравана 1447 выпадкаў захворвання на грып і 1602 ВРЗ. Гэта ў тры разы вышэй за норму. І фактычна лічба хворых значна вышэй.

У гэтыя дні чакаецца пік. Праўда, не эпідэміі, а ўспышкі. Бо сутнасць эпідэміі не толькі ў колькасным выражэнні, а і ў геаграфіі. Сёння ахвяры віруса, у асноўным, школьнікі. Таму рашэннем гарвыканкома школы закрытыя на карантын. Забароненыя дзіцячыя кінасеансы, культурныя, спартыўныя мерапрыемствы.

Вірусаў грыпу некалькі відаў - і з высокай тэмпературай, і без яе. Аднак у любым выпадку хваробу трэба пераляжаць, так гавораць урачы.

**ВАЛОЖЫН.** Толькі дзесьці праз два тыдні ўрачы чакаюць успышку грыпу. Прыйдзе вірус з Маладзечна. На сёння сітуацыя лепш за задавальняючую. Напрыклад, за студзень па раёне зарэгістраваны ўсяго 44 хворыя.

**ВІЛЕЙКА.** Увесь мінулы тыдзень і гэты ідзе паступовае скарачэнне колькасці хворых на грып. Калі 17 лютага па горадзе зарэгістравана 167 хворых, то ў наступныя дні лічба змяншалася - 124, 112, 86...

Улады забаранілі дзіцячыя кінасеансы, масавыя мерапрыемствы ў навучальных установах. Таксама павялічаны час паміж сеансамі ў кінатэатрах, каб добра праветрываць залы.

У раёне рэгіструецца па 2-3 хворых на дзень.

**АШМЯНЫ.** Успышкі, тым болей, эпідэміі не прадбачыцца. Праўда, штодзень рэгіструецца да 5 выпадкаў захворвання на грып, 15-20 ВРЗ. Гэта ў 1,5 раза вышэй за норму.

*Падрыхтавалі Васіль САВІЦКІ, Марына ТАЧЫНСКАЯ, Наталля ШТЭЙНЕР, Ксенія ШЫЛІНА.*

## А ў рэспубліцы пачаўся спад вострых рэспіраторных вірусных інфекцыйных захворванняў

***У Рэспубліканскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі, аб гэтым сведчаць паказчыкі па 18-ці кантрольных гарадах краіны па стану на 24 лютага.***

Істотна знізілася захворваемасць у Мінску — яе ўзровень супастаўны з узроўнем пачатку эпідэміі і перавышае звычайны не больш чым у чатыры разы. У сталіцы зарэгістравана 6800 хворых з дыягназам ВРВІЗ. Таксама знізіўся ўзровень захворванняў у Барысаве; ранейшым ён застаецца ў кантрольных гарадах Брэсцкай і Гомельскай абласцей. Няпачны пад'ём назіраецца ў Брэсце, Віцебску, Бабруйску, Рэчыцы і Салігорску. У Гродне, Магілёве і Лідзе, Наваполацку, Оршы і Полацку захоўваецца нізкі ўзровень захворваемасці. Лятальных выпадкаў, выкліканых ВРВІЗ, у рэспубліцы не зафіксавана.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

СТАРЫ АЛЬБОМ



Маладзечна, канец XIX-пачатак XX стагоддзя. Цэнтральная плошча мястэчка-- Гандлёвая. Від на сённяшняе Старое Места (у савецкія часы плошча Свабоды), вуліцу Замкавую. Тут перакрыжоўваліся дзве вуліцы (больш ў Маладзечне і не было), шляхі з Гарадка на Вілейку і з Вязыні на Палачаны. Тут жа праходзілі ад часоў караля Жыгімонта III (Прывілей ад 14 лістапада 1740 года) штотыднёвыя кірмашы-- у пятніцу і нядзелю і кірмашы на Пакроў і ў дзень святога Мікалая Цудатворцы. А ў 60-я гады мінулага стагоддзя у гонар разгрому царскім самаўладдзем паўстання пад кіраўніцтвам Каліноўскага, была ўзведзеная праваслаўная царква (элемент агароджы можна заўважыць на здымку ў левай яго частцы).

ФОТА З АРХІВАЎ МІНСКАГА АБЛАСНОГА КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

КУЛЬТУРА

**МЯДЗЕЛ.** Вечар "Жыццё. Лёс. Памяць", прысвечаны памяці **П. Машэрава**, прайшоў у аўторак у пamяшканні гарвыканкома. У якасці ганаровых гасцей запрасілі жонку Паліну Андрэеўну, дачку Наталлю, былую вучаніцу Пятра Міронавіча Тацяну Кляцко, народную артыстку РБ Марыю Захарэвіч.

●Лепшых працаўнікоў усіх галін вытворчасці сабраў сёння раённы злёт, які рыхтавалі супрацоўнікі райвыканкома, культработнікі.

**ВАЛОЖЫН.** У сераду прайшла сустрэча жыхароў райцэнтра з супрацоўнікамі Белтэлерадыёкампаніі. Яна адбылася ў мясцовым кінатэатры "Юнацтва". З канцэртнай праграмай выступіў ансамбль народнай музыкі "Бяседа".

●Саліст **Уладзімір Данчанка** возьме ўдзел у абласным конкурсе эстраднай песні, які заўтра адкрываецца ў Слуцку.

**МАЛАДЗЕЧНА.** Злёт перадавікоў усіх галін вытворчасці пройдзе заўтра на базе Палачанскага СДК. З вялікай канцэртнай праграмай выступяць лепшыя калектывы мастацкай самадзейнасці раёна.

●4 сакавіка ў вялікай зале музычнага вучылішча адбудзецца канцэрт Мінскага абласнога камернага хора, якім кіруе **Аляксей Шут.**

*Тэрэса ВАСІЛЬЕВА.*

**АШМЯНЫ.** У міжраённым конкурсе каманд КВЗ з навучальных устаноў, які пройдзе ў сакавіку, раён будуць прадстаўляць "Ванькі" (СШ №3). Гэтае права яны атрымалі пасля перамог над "Багатырской силой" (СШ №2), "Чучундрамі" (СПТВ-192), "Ю-ТУ" (Жупранская СШ).

*Ксенія ШЭІНА.*

ВІЛЕЙКА

# Пра Машэрава памятаюць

***19 лютага у выставачнай зале Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея прайшла сустрэча гараджан з роднымі Пятра МАШЭРАВА, якому днямі споўнілася 80 год. І калі дзесьці юбілейныя ўрачыстасці насілі фармальны характар, то толькі не ў Вілейцы. Першы сакратар Вілейскага абкома камсамола Пётр Машэраў жыў і працаваў у горадзе над Віллёй у 1944 годзе, да пераезду абласнога цэнтра ў Маладзечна.***

**Паліна Андрэеўна**, жонка Пятра Міронавіча ўспомніла дом на вуліцы Камсамольскай, дзе прайшлі іх першыя пасля вызвалення Вілейшчыны месяцы іх сямейнага жыцця. У Вілейцы ў Машэравых нарадзілася дачка **Наталля**, якая таксама прысутнічала на сустрэчы. Многія і сёння згадваюць ваенныя і першыя пасляваенныя гады, калі працавалі і проста сустракаліся з будучым кіраўніком КПБ (чытай - краіны). Адзін з такіх людзей-- **Ганна Сямёнаўна Андрэева (Кашыцкая)**, у свой час сакратар па ідэалогіі Куранецкага падпольнага райкома камсамола. Яна расказала аб часах, сведкай якіх становіцца ўсё менш.

Успомнілі брата Пятра і сёстры **Вольга і Надзея**.

*Аддзел інфармацыі.*

СКАЎТЫНГ

# Пасябраваў піянер са скаўтам

***ВІЛЕЙКА. 19 лютага ў Чурлёнскай СШ адбылося пасяджэнне намеснікаў дырэктараў школ Вілейскага раёна па выхаваўчай рабоце "Дзяцячыя арганізацыі-- што новага?" У школе існуюць дзве арганізацыі для дзяцей і падлеткаў-- піянерская і скаўцкая. Калі пра піянерскія арганізацыі, якія цяпер крыху змяніліся, ведаюць многія, то пра беларускі скаўтынг не так ужо і шмат.***

Адбылося знаёмства з кожнай арганізацыяй. Піянеры паказалі інтэлектуальна-пазнавальную гульню "Спрут", а скаўты выступілі са сваёй візітоўкай у выглядзе ўласнай п'есы "Слухаецца справа..." Былі нумары мастацкай самадзейнасці ад кожнай дзіцячай арганізацыі. У канцы скаўты паказалі п'есу Каруся Каганца "Модны шляхцюк", у якой прынялі ўдзел настаўнікі і дырэктары школ.

Многія школьныя арганізатары выхаваўчай работы адзначылі, што ўпершыню пазнаёміліся з Аб'яднаннем беларускіх скаўтаў і іх дзейнасцю. Скаўцкая арганізацыя вельмі зацікавіла, але што рабіць, калі ім прапануюць ствараць у кожнай школе толькі БПСМ? Гаварылася, што вельмі добра, калі ў школе існуюць арганізацыі па жаданню дзяцей, але было б яшчэ лепей, каб дзяржава аднолькава матэрыяльна і маральна падтрымлівала розныя дзіцячыя арганізацыі і аб'яднанні. Многія здзівіліся, што кіраўнікі скаўцкай арганізацыі не атрымліваюць грошы за сваю працу. Але ўсе аднадушна заявілі, што дзейнасць любой дзіцячай арганізацыі залежыць ад яе лідэра.

*Бярнард ПАКУЛЬНІЦКІ, старшыня Рады АБС, удзельнік пасяджэння.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Беспрацоўныя селі на тварог

ВІЛЕЙКА. Па панядзелках аўтобусы турагенцтва "Спадарожнік" забіраюць з цэнтральнай плошчы горада жадаючых наведаць Расію. Падатковая міліцыя вырашыла пацікавіцца, што ад нас звозяць. І з гэтай нагоды спыніла адзін такі аўтобус на выездзе з горада.

Чатыры жанчыны везлі 420 кг тварагу і смяганы. Астатнія ехалі амаль пустыя - за таварам. І каб на мяжы аўтобус спынілі, лёгка можна было пазбегнуць непрыемных пытанняў. З улікам колькасці пасажыраў атрымлівалася па 10 кг на чалавека. Так заўсёды лацвей дамовіцца.

Былыя работніцы завода "Зеніт", цяпер часова не працуючыя **Ганна Ш., Людміла Б.** везлі па 710 тваражных сыркоў. Кошт аднаго - 6100 рублёў. Тавар канфіскавалі, а на жанчын завялі крымінальныя справы.

З-за цяжкага сямейнага становішча не ўзбуджалася крымінальная справа на прыбіральшчыцу завода "Зеніт" **Ларысу М.** Яна везла 184 тваражныя сыркі і 126 пакетаў смятаны. Жанчыну аштрафавалі на 500 тысяч. Дарэчы, тавар таксама канфіскавалі.

А вось для прадпрымальніцы **Алы К.** запаліці зялёнае святло. З трыццаццю кілаграмамі малочных прадуктаў яна перасякла мяжу. Праўда, па вяртанні заплаціла 1 мільён штрафу.

Па рашэнні гарвыканкома канфіскаваны тавар (вытворчасці мясцовага гармалзавода) перададзены на рэалізацыю ў магазін №2 аб'яднання "Вікторыя".

Зразумела, не ад добрага жыцця беспрацоўныя едуць гандляваць у Расію. Там на ўкладзеную тысячу атрымаеш дзве. Вось бы на тым самым "Зеніце" на ўкладзеныя веды атрымліваць столькі, каб жыць, а не існаваць.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Паганарыўся бацькамі

ВІЛЕЙКА. 3,5 тысячы долараў страціла сям'я з вул. Кастрычніцкай.

Іх сын, навучэнец ПТВ, пахваліўся сябрам, якія ў яго "крутыя" бацькі. Наваг паказаў, дзе ў кватэры ляжаць долары.

Неяк сябрукі прапанавалі хвальку наведаць таварыша ў бальніцы. Там пераапрануліся ў белыя халаты, ціхенька з паліто хлопца выцягнулі ключы. Праз колькі часу, ужо малочы здабычу, ключы падкінулі ў кішэню разявы. Ён, размаўляючы з хворым, так і не заўважыў адсутнасці некаторых з сябрукоў.

Міліцыя затрымала аферыстаў-- школьніка і двух 18-гадовых непрацуючых.

*Алена ІРЫСАВА.*

# Лік адкрыты

ВІЛЕЙКА. 5 выпівох з пачатку года дастаўлены ў рэанімацыйнае аддзяленне бальніцы з агрэсіўным псіхозам.

Наведвальнікі - мужчыны. Усіх выратавалі. Суткі лячэння чалавека ў рэанімацыі каштуюць мясцоваму бюджэту 1 мільён.

*Марыя ТАЧЫНСКАЯ.*

# Начальства націснула на гарэлку і цыгарэты

ВІЛЕЙКА. Загадчыца магазіна "Стайкі" **Наталля Крупенчык**, атрымаўшы для рэалізацыі цыгарэты "Прыма", тавар прытрымала. Як у ваду глядзела. Праз тыдзень прывезлі новую партыю з новай цаной. На складзе пры праверцы падатковая міліцыя знайшла яшчэ і каву па даўно зыбытых цэнах.

А вось у магазіне камбіната бытавога абслугоўвання (загадчыца **Галіна Горбач**) знойдзена каля 40 бутэлек віна-гарэлачных вырабаў па смешных цэнах - 20 тысяч за бутэльку гарэлкі. Безумоўна, цэннікаў на гэтую прадукцыю ў гандлёвай зале не было.

Загадчыкі магазінаў аштрафаваны на 5 "мінімалак".

*Аддзел інфармацыі.*

З ГІСТОРЫІ НАРАЧАНСКІХ ЗДРАЎНІЦ

# Пасля мяне хоць трава не расці?

***Да верасня 1939 года яго называлі "польскім можам", потым - "беларускім морам", газета "Звязда" прыдумала новую назву - "Беларускі Байкал". І ўсё гэта пра адзін і той жа вадаём - возера Нарач.***

Пасля першай Сусветнай вайны Нарач апынулася ў межах польскай дзяржавы. Яно зацікавіла ўладу, што тады існавала, прыцягнула ўвагу грамадскасці, прэсы. Гэта выказана ў №194 газеты "Слово", якая выдавалася ў Вільні. 25 жніўня 1929 года карэспандэнт пісаў: "Не хапае Нарачы і іншым прыгожым азёрам усяго, што складае слынных кожнага курорта і летнікаў: недахоп даезду, чыгункі, шашы, недахоп віл і летнікаў, гасцініц, рэстаранаў, недахоп... ах! Адным словам, ініцыятывы і добрай волі...".

Выкарыстаўшы грашовую дапамогу заходніх краін, польскія ўлады з Вільні на ўсход, да граніцы з СССР, праклалі брукаванку (рабілася з мэтай, каб хутчэй дастаўляць тэхніку і салдат у выпадку канфлікту). Дарога пралягла ўздоўж возера Нарач і паспрыяла асваенню Нарачы. Перш-наперш біў узведзены драўляны будынак для адпачынку дзяцей, студэнтаў з розных рэгіёнаў Польшчы. Падчас нямецка-фашысцкай акупацыі будынак згарэў.

У 60-х гадах на месцы спаленага летніка будаўнікі ўзвялі мураваны корпус санаторыя "Нарач", які 4 сакавіка 1963 года прыняў першых адпачываючых. Летась над галоўным корпусам надбудаваны чацвёрты паверх. Праведзены рамонт пакояў, цяпер ёсць і асобныя. Санаторый прымае адпачываючых з хваробамі органаў стрававання, сардэчна-сасудзістай сістэмы. адпускаецца шмат працэдур, увага надаецца дыетычнаму харчаванню.

Ці ўдзячныя ёй, беларускай жамчужыне, людзі, што тут стала жывуць ці прыязджаюць у здраўніцы, ці па сваёй ініцыятыве наведваюць берагі возера, бываюць у навакольным лесе? Ці ад сваёй недаразвітасці, адсутнасці культуры або вернасці прынцыпу: "Пасля мяне - хоць трава не расці" - пакідаюць балючы след. Нельга без абурэння чытаць артыкул у "Звяздзе" (10 жніўня 1995 года), дзе сказана, між іншым:

"... Ледзь не за кожным кустом можна знайсці сляды "пікнічкоў", кастрышч, рэшткі ежы, скамечаныя газеты і г. д. Самае непрыемнае - тэрыторыя скрозь забруджана вострым шклом ад тысяч і тысяч бітых (кім і навошта) бутэлек. Па гэтым шкле бегаюць дзеці з піянерскіх лагераў, у нас на вачах парэзала абедзве нагі дзяўчынка-мінчанка - прама ў вадзе, за некалькі метраў ад берага".

У вершы "Экалогія" Максім Танк рашуча выказаўся ў адрас тых, хто знішчае лес, забруджвае вадаёмы:

... Няўжо не бачыце,
Як яе здратавалі,
Вытапталі,
Пакалечылі?
А яшчэ збіраемся
Такія ж сляды пакінуць
І на іншых планетах.

Сапраўды, Нарач заўсёды тварам да людзей, а як мы да яе? Няпроста адказаць на гэта пытанне. А трэба!

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ, Нарач.*

